*Яўгенія* ПРАКАПЧУК

# Я ДА СТА Ў СОТЫ РАЗ ЛІЧУ



***Яўгенія Пракапчук нарадзілася 1 жніўня 1997 года ў Брэсце. Вучаніца СШ № 3 Ганцавіч. Займаецца ва ўзорным літаратурным аб'яднанні «Верасок». Друкавалася ў газетах «Савецкае Палессе», «Заря», «Народная трыбуна». Двойчы пераможца абласнога конкурсу юнацкай паэзіі (2013, 2014), з нагоды чаго гэтай восенню едзе ў Швецыю.***

* * *

Песня хаўтурная
Сцелецца ў горадзе рэхам.
Неба расчульвае:
Шчодра адорвае снегам.

Нібы стараецца
Боль заглушыць на часіну
Не сунімаецца —
Падае ўніз з аблачыны.

Голле халоднае
Ад маразоў засланяе,
Нібы гаротнае,
Людзям ў бядзе спачувае.

* * *

Ціха зёлкамі з роснай смугой
Прытулюся да роднае хаты.
Мяне ж лічаць чужой
І завуць крапівой,
А я толькі здзічэлая мята.

Не шкадуюць маіх каранёў,
Кажуць, нібы зямля мной хварэе.
Не скажу злосных слоў,
Хоць мяне гоняць зноў,
Але рукі пячы я не умею.

То хай нішчаць і зерне, і цвет,
Покуль мара ўнутры шчэ не б'ецца!
Хай адыдуць ад бед —
У нязведаны свет
Хоць яны з неапаленым сэрцам...

* * *

Пачакаю. Злічу да ста.
Боль адыдзе. Не ўпершыню.
Мне б не ліст, дык хоць паўліста,
У адвечную вышыню.

Мне б ні песню — адзін прыпеў,
Мне б мелодыю родных слоў,
Кволы лісцік з магутных дрэў,
Сіні прыцемак вечароў.

Мне б жалобны напеў пачуць
Навальніц і глухіх завей...
Я да ста ў соты раз лічу.
Боль схаваўся ў душу глыбей…

* * *

Пакідаю абразы, згрызоты
За дзвярыма, за ўмоўнай мяжой.
І з якойсь асаблівай пяшчотай
Удыхаю дрыготкі спакой.

Пройдзе ўсё. Хваляванні, турботы
Не пакінуць у сэрцы слядоў.
Дай жа, Божа, з такою ж ахвотай
Мне заўсёды вяртацца дамоў.

* * *

Шэрае неба боль свой трывае,
У цёмныя хмары слёзы збірае.
Дыхае цяжка панурае неба,
Колкім дажджом прыпадае да глебы.
Громам вітаецца з чорнай зямлёю,
Каб недзе ў травах ажыць з цішынёю.

* * *

Імкнуцца дрэвы да нябёс.
З натугаю ўздымаюць голле.
Яны клянуць уласны лёс,
Яны шукаюць лепшай долі.

Не адчуваюць маразоў
І гнуцца пад шалёным ветрам,
Не спяць у цемры вечароў —
Іх душыць роднае паветра.

Яны з агідаю з зямлі
Выцягваюць сваё карэнне…
Не кіньце ж роднае раллі:
Знайшлі вы смерць, а не збаўленне.

